**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№22(686)**
**30 траўня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Фэст у гонар святога Мікалая ў Заваратах

Фота Зміцера Лупача.

*Працяг тэмы на стар. 4.*



## МНС інфармуе
**на 28.05.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 484;
Гібель людзей – 69, з іх 1 дзіця;
Урон – 2401,2 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 118.2 руб.



## З 1 чэрвеня цыгарэты зноў падаражэюць

**1 чэрвеня павышаюцца максімальныя рознічныя цэны на некаторыя маркі цыгарэт на 4,3–14,3%. Такая інфармацыя размешчана на сайце Міністэрства па падатках і зборах.**

Цэны павышаюцца на імпартаваныя маркі цыгарэт з фільтрам: Aroma Rich — з 14.000 да 16.000 рублёў (на 14,3%); Richmond — з 18.000 да 20.000 (на 11,1%); Lucky Strike Click&Roll — з 11.500 да 12.000 (на 4,3%).

Максімальная рознічная цана на цыгарэты маркі Winston Limited Edition устаноўлена ў памеры 18.000 рублёў за пачак.

Папярэдняе павышэнне на адну марку цыгарэт было з 1 мая (на 2,9%).

Згодна з Асаблівай часткай Падатковага кодэкса, з 1 студзеня 2012 года беларускія вытворцы і імпарцёры цыгарэт маюць права штомесяц дэкляраваць максімальныя рознічныя цэны на цыгарэты. Раней рознічныя цэны рэгуляваліся Міністэрствам эканомікі.

*БелаПАН*

Полацкі раён

# Ласункі ад завадчан

■ Чэслаў Якубовіч

**Самым запатрабаваным прадуктам харчавання быў і застанецца хлеб.**

Разумеючы гэта, на Наваполацкім хлебазаводзе за некалькі апошніх гадоў практычна поўнасцю замянілі тэхналагічнае абсталяванне і пашырылі амаль да 100 найменняў свой асартымент хлеба-булачных вырабаў, здобы, тартоў, піражкоў і іншых ласункаў. Зараз прадукцыя навапалачан прыглянулася і прадстаўнікам самай дынамічнай айчыннай гандлёвай сеткі "Еўраопт". Стала яна запатрабаванай і ў гандлёвых цэнтрах Расіі, асабліва аўсяное пячэнне "Ласунак". На апошнім нацыянальным конкурсе хлебапячэння заводу з Наваполацка ўручылі залаты медаль за аўтарскія навінкі і выдатную якасць двух відаў пячэння і фруктовых палосак. На гэтым прадпрыемстве раней запусцілі сучасную энергазберагальную танельную печ вытворчасці Чэхіі прадукцыйнасці да тоны вырабаў за змену. Каб прабіцца на расійскі рынак, мясцовым хлебапёкам прыйшлося двойчы на тыдзень выязджаць туды, шукаць новых спажыўцоў і партнёраў. Ды і над новай сваёй прадукцыяй прыйшлося спецыялістам завода папрацаваць шмат, каб дабіцца адпаведнай якасці і распрацаваць пасля некалькіх спроб сваю рэцэптуру, якую захоўваюць у тайне ад канкурэнтаў. Цяпер на хлебазаводзе прыступаюць да мадэрнізацыі сваёй кацельні з мэтай зніжэння энергазатрат пасля ўстаноўкі новага катла. На наступны год намецілі тут замяніць і тэхналагічную лінію па выпечцы падавых і фармавых буханак жытнёва-пшанічнага хлеба. Акрамя ўсяго карыстаюцца папулярнасцю і вясельныя караваі, і розныя святочныя тарты па спецыяльных заказах.

Пастаўскі раён

# Да крыніц духоўнасці

■ Кастусь Александровіч

**Пасля некалькіх дзесяцігоддзяў ваяўнічага атэізму паўсюдна цяпер вяртаюцца да спрадвечных асноў хрысціянскага жыцця.**

Вось і ў Пастаўскім раёне, дзе цяпер багата прыходаў каталікаў, праваслаўных, пратэстантаў і нават старавераў, ладзіцца штомесяц шэраг значных духоўных мерапрыемстваў. На працягу тыдня ў райцэнтры праходзіла спачатку па благаславенні архіепіскапа Полацкага і Глыбоцкага Феадосія прадстаўнічая выстава-кірмаш "Радасць Слова". Падчас спецыяльнага малебна на галоўнай плошчы горада адбылася перадача святыні, каштоўнага факсімільнага выдання "Слуцкага Евангелля", якое папоўніла кніжны фонд цэнтральнай раённай бібліятэкі. Гэты ўнікальны рукапіс, які цудам уцалеў падчас мінулай вайны, цяпер стаў даступным для мясцовых жыхароў. На працягу некалькіх дзён у спецыяльным павільёне каля храма на плошчы сустракаліся праваслаўныя святары з вернікамі, праходзілі такія сустрэчы і ў шэрагу калектываў, перад ваеннаслужачымі. Аб значэнні духоўнага слова шмат гаварылася падчас штодзённых лекторыяў, дэманстрацыі хрысціянскіх фільмаў. Услед за гэтым у горадзе адбыўся ў цудоўнае майскае надвор'е традыцыйны злёт праваслаўнай моладзі Полацка-Глыбоцкай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы. У ім браў удзелі і сам архіепіскап Феадосій, які правёў урачыстую літургію ў мясцовай царкве св. Мікалая Цудатворцы, сустрэўся з маладымі вернікамі з розных куткоў вобласці. Для гасцей духоўнага злёту арганізавалі пазнавальную экскурсію, адбыўся вялікі канцэрт з вясенніім балам і вечарам знаёмстваў для маладых хрысціян і шэраг іншых запамінальных падзей.

Докшыцкі раён

# Дарогі на той свет

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам на беларускіх дарогах прыкметна павялічылася колькасць легкавых аўтамабіляў, аднак і аварыйнасць на трасах застаецца, на жаль, вельмі высокай.**

Вось і днямі пры ўмове добрай бачнасці на ўчастку Бягомль-Глыбокае паблізу вёскі Рашкоўка Докшыцкага раёна пад вечар адбылося лабавое сутыкненне дзвюх іншамарак. Як мяркуецца, вадзіцель адной з іх быў на падпітку і таму заснуў за рулём, выехаў на сустрэчную паласу і ўдарыўся з едучым "Фольксвагенам". На шчасце, вадзіцель гэтай машыны з пасажырам асабліва не пацярпелі, толькі іх машына атрымала механічныя пашкоджанні. А вось віноўнік ДТЗ атрымаў даволі сур'ёзныя раненні і быў змешчаны ў рэанімацыйнае аддзяленне райбальніцы. Перад гэтым непадалёку адсюль толькі на трасе М 3 Мінск-Віцебск на яе 106 кіламетры ў падобнае ДТЗ трапіў яшчэ адзін вадзіцель "Аўдзі". На хуткасці раніцай 42-гадовы кіроўца не размінуўся там з праязджаўшай фурай. Удар быў такі моцны, што вадзіцель легкавушкі загінуў на месцы здарэння. І ў іншых кутках вобласці цяпер на дарогах трывожна. Вечарам на заўсёды загружанай трасе ля вёскі Гомель Полацкага раёна знайшоў сваю пагібель ў падобным сутыкненні з грузавым аўтамабілем кіроўца аўто з Санкт-Пецярбурга. З-за сваёй няўважлівасці гінуць людзі і на ціхіх, спакойных дарогах. Падобная бяда адбылася на тэрыторыі Пастаўскага раёна, дзе надвячоркам веласіпедыст выскачыў з вёскі Асінградок на галоўную дарогу і быў збіты насмерць машынай, якой не уступіў права язды.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 30.05.13 | | | | Пятніца 31.05.13 | | | | Субота 01.06.13 | | | | Нядзеля 02.06.13 | | | | Пнд.03.06.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +18 | +21 | +19 | +14 | +17 | +22 | +20 | +16 | +20 | +24 | +22 | +17 | +21 | +24 | +22 | +16 | +21 | +24 |
| Ціск | 744 | 745 | 744 | 744 | 743 | 743 | 742 | 742 | 741 | 741 | 740 | 741 | 742 | 742 | 743 | 743 | 743 | 744 | 743 |
| Вільготнасць | 86 | 74 | 55 | 69 | 89 | 91 | 65 | 72 | 86 | 76 | 61 | 70 | 86 | 80 | 60 | 70 | 92 | 82 | 63 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-З | 1 Пд-З | 3 Пд-У | 2 У | 2 Пд-У | 3 У | 6 Пд-У | 3 У | 4 У | 5 У | 9 Пд-У | 3 У | 3 У | 4 У | 5 У | 3 У | 2 У | 3 У | 4 У |

# Аб самым надзёным

## БЕЛАРУСКІ ХАКЕЙ РАЗВАЛЬВАЕЦЦА, ХОЦЬ І АТРЫМОЎВАЕ ШЧОДРУЮ ДЗЯРЖАЎНУЮ ПАДТРЫМКУ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Давайце спакойна ўспрымем, дзе мы рэальна знаходзімся і на што можам прэтэндаваць. А тут не толькі ў хакеі магчымасці беларусаў сціплыя, для нас важней, каб здаровы і актыўны лад жыцця станавіўся патрэбнасцю для большасці суайчыннікаў.**

Даўно ўсім беларусам было вядома, што ў нашай краіне хакей – гэта не толькі спорт нумар адзін, а значна болей. Ім захапляецца вышэйшае кіраўніцтва, у хакей укладваюцца проста велізарныя сродкі, а таму ж футболу і іншым відам адзінаборстваў застаюцца хлебныя крошкі з барскага стала. Аднак і сёлета май зноў аказаўся сапраўды "чорным" і правальным, а беларуская хакейная зборная на прайшоўшым чэмпіянаце свету толькі дзякуючы выпадку захавала прапіску ў элітным дывізіёне.

А спачатку нашы сябры расіяне ўзялі і з сорамам адправілі з Сочы дамоў не абы-каго, а хакейную беларускую прэзідэнцкую каманду з міжнароднага аматарскага турніру. Па звыклай завядзёнцы нашы ў парушэнне рэгламенту прывезлі туды палову каманды, складзеную з гуляўшых у мінулым прафесіяналаў, майстроў спорту, ігракоў нават зборнай. Гэта ў Мінску падобная практыка праходзіць на пацешных калядных турнірах, якія мы ўпэўнена выйграем, а потым крычым, што ў Беларусі хакей дасягнуў лепшага сусветнага ўзроўню пры перапоўненых трыбунах, куды зганяюць гледачоў у абавязкова-прымусовым парадку.

За мяжой такія парадкі – нонсенс, а чаго мы вартыя, яскрава прадэманстравала зноў правальнае выступленне айчыннай зборнай на сусветным першынстве, якое праходзіла на лядовых арэнах Фінляндыі і Швецыі. Напярэдадні перад нашай значна абноўленай дружынай беларускага трэнера Андрэя Скабелкі паставілі проста нерэальную задачу змагацца за 8-10 выніковае месцы. У выніку мы фінішавалі на самым горшым апошнім часам выніковым 15-м месцы ў табелі аб рангах.

І каб не былі арганізатарамі наступнага сусветнага першынства, то "вылецелі б" заслужана ў ніжэйшы дывізіён "В". Калі разабрацца, беларускія хакеісты выглядалі на гэтых спаборніцтвах дрэнна, яны былі самыя горшыя ў нападзенні. У абароне наша каманда таксама, хоць і старалася, выкладвалася на пляцоўках, але гуляла вельмі невыразна і асцярожна, баялася прапусціць і прымушала сваіх варатароў працаваць з павышанай нагрузкай.

Па шчырасці, нават шкада зборную Аўстрыі, якая разам са славенцамі, пакінула эліту. Аўстрыйцы сёння мацней беларусаў на хакейных пляцоўках і гэта, хоць і горка, трэба прызнаць. Тым больш, што да новага сусветнага першынства ў Мінску засталося меней года. Цяпер не будзем пасыпаць галаву попелам, каб у маі 2014 года дома зусім не асароміцца і не заняць апошняе месца сярод 16 зборных, якія прыедуць да нас. А да гэтага мы падышлі зусім блізка, паколькі не толькі ў беларускім хакеі, але і ўвогуле ў спорце, эканоміцы, лічы ва ўсёй арганізацыі кіравання даўні глыбокі сістэмны крызіс. І толькі сляпы гэтага не бачыць.

У нашай беднай, хоць і вельмі амбіцыйнай дзяржаве найперш, гаворачы пра той жа дзяржаўны па-сутнасці і дарагі як від спорту хакей – правал у развіцці яго на юнацкім і маладзёжным узроўні. Скажыце, як жывуць зараз і развіваюцца хакейныя ДЗЮСШ, якія заробкі маюць дзіцячыя трэнеры ў іншых відах спорту? Правільна, яны ў большасці сваёй ледзь зводзяць канцы з канцамі. У глыбінцы пабудавалі ўжо тры дзясяткі лядовых крытых пляцовак, іх утрыманне патрабуе велізарных сродкаў, а тым жа бацькам, каб купіць хакейную амуніцыю сваім дзецям, трэба выкласці не адну тысячу долараў.

Ужо лепей было б замест дарагакаштуючых Лядовых палацаў узвесці плавальныя басейны, для людзей больш карысці для ўмацавання здароўя атрымалася б туды хадзіць і працей з купальнікам і рушніком. Да таго ж трэба ў Беларусі спыніць нарэшце трэнерскую чэхарду, імкнуцца дабіцца як мага хутчэй новага цуда на лёдзе і перамагчы тых жа шведаў. На самой справе, ніякая наша краіна не суперхакейная дзяржава, а проста адна з многіх і ўжо на многія выклікі новага стагоддзя не спраўляецца адказваць, калі гаварыць шчыра.

Давайце спакойна ўспрымем, дзе мы рэальна знаходзімся і на што можам прэтэндаваць. А тут не толькі ў хакеі магчымасці беларусаў сціплыя, для нас важней, каб здаровы і актыўны лад жыцця станавіўся патрэбнасцю для большасці суайчыннікаў. Гэта сорам, калі за палову ключавога матча з датчанамі наша зборная нанесла толькі адзін кідок па іх варотах, з'яўлялася па сутнасці "хлопчыкамі для збіцця" для сапернікаў, нават для тых жа славенцаў, якія не пусцілі Беларусь на Алімпіяду ў Сочы. Спадзявацца, што ў бліжэйшы час беларускі хакей узмацніцца і паднімецца ўгору – проста неразумна.

## Дзень за днём

**Ужо ў пачатку мая рост цэн у Беларусі дасягнуў 5,9 % пры гадавых параметрах інфляцыі 12 %, нарэшце хоць крыху спынілася даражэць харчаванне. Нацбанк РБ прадоўжыў сваю палітыку зніжэння стаўкі рэфінансавання. У сямі праверанных прыватных медцэнтрах Мінска забаранілі праводзіць аперацыі. Сярод беларусаў інсультаў у 2,5 разы болей, чым у еўрапейскіх краінах. Кіраўнік Беларусі публічна забараніў абарону дысертацый дзеючымі дзяржчыноўнікамі. У краіне засталося ў жывых крыху больш 25 тысяч ветэранаў вайны і з іх жыве толькі адзін поўны кавалер ордэна Славы.**

# Важнейшыя навіны свету

**Германія.** Цэнтр па раскрыцці нацысцкіх злачынстваў распачаў справу супраць яшчэ 49 былых супрацоўнікаў лагера смерці Асвенцым, у ім было знішчана амаль 1,3 мільёна чалавек.

**КНДР.** Пасля ваяўнічай рыторыкі кіраўніцтва паўгалоднай краіны вывела са стану баявой гатоўнасці свае ракеты з усходняга пабярэжжа, нацэленыя на Карэю, Японію і ЗША.

**Турцыя.** Урад краіны абвінаваціў спецслужбы суседняй Сірыі ў арганізацыі серыі выбухаў у прыгранічным горадзе Рэйханлы, ахвярамі якіх сталі 43 чалавекі, каля 150 - параніла.

**Бельгія.** Еўракамісар па пытаннях добрасуседства Штэфан Фюле заявіў, што ў РБ даўно зацягнуўся агульны сістэмны крызіс, няма свабодных і чэсных выбараў, вяршэнства права

**Украіна.** Ветслужба краіны часова забараніла ўвоз з Беларусі мяса з-за рызыкі заражэння афрыканскай чумой свіней пасля іх масавага мору на свінакомплексе каля Баранавіч.

**Бангладэш.** Глава дыпмісіі ЕС Кэтрын Эштан папярэдзіла ўрад краіны аб магчымых санкцыях, калі тут не прымуць мер па паляпшэнні ўмоў працы рабочых на фабрыках.

**Іран.** Урад адмяніў порку бізуном прэзідэнту М. Ахмадзінежаду за парушэнні з яго боку ў ходзе перадвыбарнай кампаніі, лідару краіны нельга ісці на трэці прэзідэнцкі тэрмін.

**Расія.** Дырэкцыя КамАЗА заявіла, што пойдзе на аб'яднанне з беларускім МАЗам толькі пры ўмове наступнага выкупу да 75 % кантрольнага пакета акцый холдынга "Росбелаўта".

**Бельгія.** У ходзе спецаперацыі паліцыя затрымала банду злачынцаў, якія ў лютым дзёрзка абрабавалі ў аэрапорце Бруселя самалёт з брыльянтамі, частку каштоўнасцей знайшлі.

**Францыя.** Медыкі пацвердзілі другі выпадак заражэння людзей новым сіндромам цяжка вылечнай атыповай пнеўманіі, за тыдзень ад яе ў свеце ўжо памерлі 18 захварэўшых чалавек.

**Карэя.** У сусветныя лідары на рынку электронікі выйшла кампанія Samsung з прыбыткам у І квартале 47,4 мільярда долараў, за год толькі адных смартфонаў яна прадасць 68-70 мільёнаў штук.

**Літва.** Генпракуратура краіны адхіліла просьбу Расіі аб выдачы ёй пражываючага тут грузінскага палітыка Гіві Таргамадзе, нібыта "спонсара рэвалюцый" і крытыка курсу РФ.

**Італія.** Упершыню ў гісторыі працы порта Генуя вялікі карабель пры выхадзе ў мора сутыкнуўся з дыспетчарскай вышкай у момант перадачы змены, былі ахвяры і параненыя.

**Ватыкан.** Новы Папа Рымскі Францыск далучыў на спецыяльным Богаслужэнні на плошчы перад саборам св. Пятра да ліку святых больш 800 хрысціян-пакутнікаў за веру.

**Швецыя.** Услед за музеем славутай групы ABBA ў Стакгольме адкрылі ў парку атракцыёнаў самую высокую ў свеце (120 метраў) панарамную карусель над горадам.

# «Беларусбанк» змяніў парадак пералічэння крэдытаў на жыллё пад 14-16% гадавых



■ Аляксей Арэшка, БелаПАН

**З 22 мая ААТ "АСБ" Беларусбанк "змяняе парадак пералічэння крэдытаў на будаўніцтва (рэканструкцыю) і набыццё жылых памяшканняў, пабудаваных дзяржаўнымі арганізацыямі спецыяльна для продажу.**

Як паведамляе прэс-служба банка, пры атрыманні крэдытаў на фінансаванне нерухомасці з выплатай 16% (14%) гадавых унясенне грамадзянамі ўласных сродкаў ажыццяўляецца паралельна з пералікам крэдытных рэсурсаў на працягу ўсяго перыяду будаўніцтва (рэканструкцыі) жылога памяшкання. Гэта значыць, першачарговага ўнясення ўласных сродкаў грамадзян пры выдачы крэдытаў на фінансаванне нерухомасці цяпер банк не патрабуе. Дадзеная ўмова распаўсюджваецца і на раней заключаныя крэдытныя дагаворы, якія змяшчаюць патрабаванне аб першачарговым унясенні ўласных сродкаў, пасля заключэння дадатковага пагаднення да крэдытнай дамовы. Для заключэння дадатковага пагаднення крэдытаатрымальнікам неабходна звяртацца ва ўстанову банка па месцы атрымання крэдыту.

Грамадзянам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, якія заключылі з 25 лютага 2013 года крэдытныя дагаворы на будаўніцтва (рэканструкцыю) і набыццё жылых памяшканняў, пабудаваных дзяржаўнымі арганізацыямі спецыяльна для продажу, пад 32% (31%) гадавых, прадастаўлена магчымасць заключыць дадатковае пагадненне да крэдытнай дамовы на змяненне памеру працэнтнай стаўкі да 16% (14%) гадавых з даты заключэння дадатковага пагаднення.

Акрамя таго, з 22 мая па зноў выдадзеных крэдытах на набыццё жылых памяшканняў грамадзянам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, працэнтная стаўка ўстанаўліваецца ў памеры стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка на дату заключэння крэдытнага дагавора, павялічанай на 2 працэнтныя пункты. "Такім чынам, рэальнае зніжэнне стаўкі па крэдытах складае 5 працэнтных пунктаў", – адзначылі ў банку.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На адной з вуліц Парка высокіх тэхналогій пабудавалі два першых арэндных дамы, да 2015 года ў сталіцы будзе пабудавана да 3-х тысяч арэндных кватэр у кожным раёне мегаполіса.

**Астравец.** Для будучай АЭС даручылі вырабіць атамны рэактар Валгадонскаму заводу "АЭМ-тэхналогіі", ён на грані банкруцтва, заробкі тут не плацілі па 3 і болей месяцаў.

**Гродна.** Больш за 20 сем'яў, супрацоўнікаў "Гроднажылбуда" па чарзе выклікалі ў суд, іх маласямейны дом прызналі інтэрнатам і патрабуюць ад людзей , каб яны выселіліся адтуль.

**Гомель.** Абласны суд пакараў двух маладых забойцаў мясцовага студэнта-першакурсніка, аднаго з іх пазбавілі волі на 25 гадоў, другі выйдзе на свабоду толькі праз 15 гадоў.

**Мінск.** У першым квартале года ў краіне на другасным рынку прадалі болей 9,5 тысяч кватэр, кошт жылля расце, больш 340 кватэр у сталіцы прадалі даражэй за 100 тысяч долараў.

**Нясвіж.** Сапраўднай трагедыяй стаў пажар наччу ў вёсцы Амльнцы, у якім загінулі ў сваім доме маці і трое малых дзяцей ва ўзросце 3, 5 і 7 гадоў, а іх бацька быў на працы.

**Камянец.** Паблізу польскай граніцы на пункце аўтадарожнага пропуску "Пясчатка" сумесна з ЕС пачалося ўзвядзенне за 2 гады міжнароднага КПП з 16 каналаў на 1200 аўто.

**Магілёў.** За забойства маці на падпітку суд адправіў у турму на 17 гадоў 33-гадовага гараджаніна, душагубу здалося, што быццам яна скрала з яго курткі 200 тысяч рублёў.

**Ашмяны.** На пункце пропуску "Каменны Лог" супрацоўнікі мясцовай мытні знайшлі ў грузавіку схаваную партыю замежнага кантрабанднага адзення коштам на 720 мільёнаў рублёў.

**Масты.** Адразу 30 выпускнікоў сталічнага ўніверсітэта запрасіла на працу на новы завод ААТ "Мастоўдрэў", для якіх аддалі другі паверх абноўленай гасцініцы прадпрыемства.

**Магілёў.** У дар музею гісторыі горада мецэнат і беларускі пісьменнік з Расіі Валерый Казакоў перадаў кнігу Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года на польскай мове.

**Мінск.** З сорамам завяршыла аматарскі хакейны турнір у Сочы прэзідэнцкая каманда Беларусі, яе знялі са спаборніцтваў за парушэнне рэгламенту, за ўдзел прафесіяналаў.

**Гомель.** На мясцовага таксіста напалі з нажом і ўдаўкай студэнты медкаледжа – беларус і расіянка на дарозе ў Навазыбкаў, парачку потым затрымала расійская паліцыя.

**Крычаў.** Пакуль бацькі працавалі на бульбяным полі ў вёсцы Мірнае, у самжалцы патануў іх 2-гадовы пакінуты без нагляду сын, якога не змагла дагледзець ягоная бабуля.

**Чэрвень.** На працягу тыдня ў родным горадзе адпачыў, сустрэўся з маці і роднымі трэці па ліку беларускі касманаўт, палкоўнік Алег Навіцкі, яго вельмі шчыра сустрэлі землякі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З пачатку года сёлета яшчэ вырасла запазычанасць суб'ектаў гаспадарання вобласці банкам і без уліку дзяржаўных органаў дасягнула па крэдытах ужо 21,2 трыльёна рублёў.

**Чашнікі.** Адна з самых буйных вёсак раёна Капцэвічы сёлета зноў, як і дзясяткі іншых, пакутуюць ад недахопу вады для піцця, на пабудову новых вадаправодаў не хапае 12,5 мільярда рублёў.

**Шуміліна.** У гарадскім пасёлку Обаль пачалося праектаванне новага энергаэфектыўнага сучаснага завода па вытворчасці цэглы, на гэтую прадукцыю ёсць попыт у Беларусі і за мяжой.

**Полацк.** У музеі беларускага кнігадрукавання празаік з Віцебска Сяргей Рублеўскі атрымаў літаратурную прэмію "Гліняны Вялес-2012" за лепшую кнігу года пабеларуску.

**Віцебск.** У абласным мастацкім музеі ў межах нацыянальнага турне арт-праекта да 30 ліпеня будзе працаваць цікавейшая выстава "мастакі Парыжскай школы з Беларусі".

**Паставы.** Міліцыя затрымала двух маладых жыхароў раёна, якія скралі ноччу 11 парасят агульнай вагой 172 кг са свінафермы ў Мядзельскім раёне, але зламысьнікі не паспелі іх прадаць.

**Наваполацк.** За ноч ад рук невядомых вандалаў з фарбамі графіці пацярпелі ўсе будынкі гарадскога парку культуры і адпачынку і мясцовы цэнтр рамёстваў, Польскі дом.

**Ушачы.** Пад заваламі згарэўшага дома ў вёсцы Вацьковічы знайшлі цела загінуўшага 58-гадовага п'янага гаспадара, яго перад бядой бачылі з сужыцелькай, якая выратавалася.

**Сянно.** На тэрыторыі раёна сумесна з ветэрынарнай акадэміяй з Віцебска прайшоў першы ў гісторыі экалагічны фестываль "Моладзь за захаванне роднага краю" з удзелам 17 школ рэгіёна.

**Полацк.** У мясцовым Крыжа-Уздвіжанскім саборы на працягу сутак знаходзілася вялікая праваслаўная святыня – мошчы святіцеля цудатворцы Спірыдона Трыміфунцкага.

**Глыбокае.** Дуэт спявачак з райцэнтра Жанны Нарыцынай і Таццяны Кітовай атрымаў спецыяльны прыз журы на зanальным конкурсе ў Оршы "Песні юнацтва нашых бацькоў".

**Віцебск.** У абласным краязнаўчым музеі адкрылі новую экспазіцыю "Геральдычны вянок Віцебшчыны", складзеную з 42 гербаў гарадоў і гарадскіх пасёлкаў Прыдзвіння.

**Орша.** Вечарам прыбыўшыя па выкліку пажарныя вынеслі 28-гадовага соннага гаспадара кватэры, выратавалі яго ад гібелі, ён курыў на ложку на падпітку, у выніку адбыўся пажар.

**Віцебск.** Рэпертуар мясцовага Беларускага тэатра "Лялька" пабагацеў яшчэ адным спектаклем для дарослых "Дзядзька Ваня і сястры тры" рэжысёра з Расіі Ю. Пахомава.

**Лужасна.** У трэці раз у сваёй гісторыі міні-футбольны клуб "Вітэн" стаў датэрмінова чэмпіёнам Беларусі і заваяваў пуцёўку на ўдзел у адпаведнай Лізе чэмпіёнаў УЕФА.

*Служба інфармацыі "ВГ".*


86-гадовая пенсіянерка з вуліцы Шпітальнай Ганна Канстанцінаўна Калантай спрытна, па-мужчынску, махае касой, назапашвае сена для сваёй казы.

# Пакуль жыву, кашу траву

**Калі я часта з захапленнем апавядаю сваім знаёмым, як мае суседзі пенсіянеры, якім даўно за 80, спрытна махаюць касой, садзяць соткамі бульбу, разводзяць пчол, а то й сядаюць у старэнькія «Жыгулі» ды, гайда, у Галубіцкую пушчу за баравікамі, то нярэдка чую ў адказ: «А што ты іх так шкадуеш! Ім самім гэта трэба! Няўжо мусяць сесці на зэдлік і чакаць, пакуль іх завязуць у Харашкі!» Паглядзі, колькі вясёлых і радасных пенсіянераў сядзіць каля рынка «Верас» ды гандлюе расадай, яйкамі, грыбамі...**

■ Ул. Скрабатун

Ганна Канстанцінаўна Калантай, колішняя настаўніца пачатковых класаў, тры гады таму страціла мужа Сяргея Яфімавіча, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны. Засталася ёй адной такая-сякая гаспадарка: пяць вулляў пчол, каза, сад і гарод, ну і, зразумела, дом. Усё гэта вымагае клопату і догляду, прыкладання рук, а ўзімку ёй трэба яшчэ і хату цепліць .

У двары ў Ганны Канстанцінаўны – чыста, прыбрана, гарод прапалены, вакол - водар кветак, гудзяць пчолы...

Дачка – выкладчык музычнай школы, дырыжор духавога аркестра, жыве ў Наваполацку. Як надарыцца вольная хвіліна, заўсёды прыязджае, дапамагае маці.

Маладая сям'я, якая пару гадоў таму па суседстве набыла дом на вуліцы Шпітальнай, аддала Ганне Канстанцінаўне свой вялікі гарод пад сенакос, бо самі пакуль займаюцца ўладкаваннем дома (пракладкай вадаправода, каналізацыі, газаправода, рамонтам дома).

Бачу, як Ганна Канстанцінаўна спрытна, па-мужчынску, махае касой – не ўстрымаўся, падышоў.

– Ведаю, што Вы шмат гадоў адпрацавалі настаўніцай. У якіх школах?– пытаю.

*– У Падгайскай школе, у Мікулічскай.Нават загадвала, было ў падпарадкаванні ў мяне аж два настаўнікі. Але гэтых школаў даўно ўжо няма. Потым ў Глыбоцкай СШ №1, а як пабудавалі СШ №3 – перайшла працаваць туды ды прывяла з сабой з першай школы, як тая "курыца-наседка", аж 46 вучняў. Такі быў вялікі клас! У класным журнале не месціліся! Ды й на пенсію калі сыходзіла, было ў мяне ў класе 36 вучняў! А шито цяпер? 18-20 вучняў!*

**Ды хоць бы мне газ дапамаглі правесці ў хату! А то ўсю зіму важу брыкет на санках, паслізнуся, завалюся, падымуся, вязу далей…**

– А Вам дзяржава хоць чымсьці дапамагае?– пытае аўтар гэтых радкоў.

*– Пенсію дае – і ўсё. А чым яшчэ яна дапаможа! **Нічым.***

– Але ж Вы – колішняя настаўніца! Маглі б у аддзеле адукацыі і пацікавіцца, як там жывецца на пенсіі 86-гадоваму педагогу, які школе аддаў 40 гадоў... Пахадайнічаць аб дастаўцы Вам сена, хоць і за грошы.

*– Ды хоць бы мне газ дапамаглі правесці ў хату! А то ўсю зіму важу брыкет на санках, паслізнуся, завалюся, падымуся, вязу далей…*

І, сапраўды, дзе тут на 87-м годзе жыццяя набегаешся з праектамі, узгадненнямі, пошукам «шабашнікаў, якія выкапаюць пенсіянерцы траншэю пад газапровод за танна!

■ Зміцер Лупач

# Фэст у гонар святога Мікалая ў Заваратах

**У вёсцы Заваратцы Глыбоцкага раёна на месцы былой царквы 22 траўня адбыўся праваслаўны фэст у гонар святога Мікалая. Службу правёў айцец Іосіф з Бушыкаў.**

Сёлетняе святкаванне было юбілейным, дзясятым. Адметнасць сёлетняга фэсту – вернікі прайшлі з працэсіяй ад пачатку вёскі да месца, дзе была царква. На гэтым месцы прайшло богаслужэнне.

У фэсце прынялі ўдзел як праваслаўныя, так і католікі. Свята ўдалося, нягледзячы на тое, што прысутным вельмі надакучвалі камары. Засмучае толькі тое, што людзей з кожным годам менее. Выміраюць вёскі…

Царква ў Заваратах узгадваецца ў дакументах канца XVIII стагоддзя як уніяцкая. Пасля таго, як царскі ўрад ліквідаваў Унію ў 1839 годзе, вернікаў прымусова перавялі ў праваслаўе. Зроблена гэта было вельмі жорстка, з дапамогай войска.

Адзін з жыхароў вёскі, Раман Круглы, адмовіўся пакінуць унію і прыняць праваслаўе. Ён быў кавалём, меў вялікую сілу, і царскія жаўнеры не змаглі яго зацягнуць у царкву. Тады афіцэр прыставіў яму да горла клінок і сказаў: «Або выракайся веры, або памрэш!» Ён і тады адмовіўся. "Ладно, пусть подыхает еретиком," – сказаў афіцэр і дараваў яму жыццё.

Праўда, Унію на беларускіх землях ліквідавалі канчаткова і Раман у рэшце рэшт вымушаны быў прыняць каталіцтва. Пра гэта мне распавядалі праўнучка Рамана, Тарэза Круглая, а таксама мой дзед, Ян Лупач.

Ян Лупач быў 1896 года нараджэння, прыняў хрост у царкве ў Ласіцы. Ён меў нават праваслаўны малітоўнік, дзе малітвы былі надрукаваны па-царкоўнаславянску кірыліцай і лацінкай.

У 1905 годзе цар Мікалай II выдаў маніфест аб свабодзе веравызнання, тады ж амаль усё насельніцтва Заваратаў і навакольных вёсак, памятаючы пра гвалтоўны перавод у праваслаўе, прыняло каталіцкую веру. Тады ж у Заваратах было асвечанае новае месца пад могілкі.

Што тычыцца Рамана Круглага, то Бог дараваў яму доўгае жыццё, ён дажыў да гэтай падзеі. Па ўспамінах старажылаў, ён нават каваў зброю для паўстанцаў Каліноўскага.

**Раман Круглы, адмовіўся пакінуць унію і прыняць праваслаўе. Ён быў кавалём, меў вялікую сілу, і царскія жаўнеры не змаглі яго зацягнуць у царкву.**

У выніку ўсіх гэтых падзей праваслаўная царква ў Заваратах і аказалася ў атачэнні каталіцкіх вёсак. Яна дзейнічала да канца 50-х гадоў, потым стаяла закрытая. У 1986 годзе была знішчаная пажарам.

На пачатку гэтага стагоддзя, па ініцыятыве вернікаў з ласіцкай парафіі, месца, дзе стаяла царква, мясцовымі жыхарамі было ачышчана ад хмызнякоў, быў усталяваны праваслаўны крыж. Крыж быў усталяваны на сродкі спадарыні Валянціны (прашу ў яе прабачэння, не памятаю прозвішча), верніцы з ласіцкай парафіі. На гэтым месцы 22 траўня кожнага года сталі адбывацца фэсты ў гонар святога Мікалая, бо царква ў Заваратах насіла яго імя.

На гэтым месцы збіраліся нават пабудаваць новы храм, але ў сувязі з малой колькасцю вернікаў царкву пабудавалі ў вёсцы Дзеркаўшчына. Каля яе ўсталяваны адзін з крыжоў, які знаходзіўся на купале царквы ў Заваратах.

Асобна хацелася б сказаць пра Сцепаніду Лупач, жыхарку вёскі Дзеркаўшчына. Шмат каму яна вядомая па тым, што яе жытнёвы хлеб уключаны ў спіс нематэрыяльных каштоўнасцяў Беларусі. Але яна не толькі пячэ смачны хлеб, яшчэ на ёй ляжыць клопат па доглядзе за царквой і тэрыторыяй вакол яе ў Дзеркаўшчыне, яна ж арганізоўвае святкаванне і ў Заваратах. Дарэчы, будаўніцтва царквы ў Дзеркаўшчыне шмат у чым стала магчымым дзякуючы яе клопатам. Але падрабязней пра гэта аўтар пастараецца распавесці ў самы бліжэйшы час.

**Ад рэдакцыі. Шаноўнае спадарства, можа ў кагосьці ў сямейным альбоме захаваліся здымкі царквы ў Заваратах? Паглядзіце, калі ласка! Мы зробім сабе скан для архіву, а сам здымак застанецца ў вас. Патэлефануйце.**





# Мінпрыроды сёлета зноў правядзе конкурс на лепшае ўладкаванне і ўтрыманне пляжу

**Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі сёлета зноў правядзе конкурс на лепшае ўладкаванне і ўтрыманне месцаў масавага адпачынку ў межах водаахоўных зон і прыбярэжных палос. Пра гэта паведаміла начальнік аддзела выкарыстання і аховы вод Мінпрыроды Таццяна Сліж на пасяджэнні круглага стала ў Мінску 27 мая.**

Конкурс пройдзе з мая па жнівень, а пераможцы будуць абвешчаны на экалагічным форуме, які адбудзецца ў жніўні ў Бабруйску (Магілёўская вобласць).

Летась грашовы прыз у памеры 7,2 млн. рублёў за перамогу ў конкурсе атрымала зона адпачынку на возеры Паперня Пружанскага раёна, другое месца і 6,1 млн. рублёў — база адпачынку на сажалцы Трылесіна ў Магілёўскай вобласці, трэцяе месца і 5 млн. рублёў — пляж санаторыя «Бярозка» Салігорскага раёна. Паводле слоў Сліж, выйграныя грошы былі пералічаны на рахункі арганізацый, у падпарадкаванні якіх знаходзіліся зоны адпачынку.

Паводле даных Мінпрыроды, у Беларусі вызначана 726 зон масавага адпачынку на водных аб'ектах, на якіх уладкавана 457 аўтастаянак. Найменшая колькасць аўтастаянак знаходзіцца ў зонах адпачынку Гомельскай (20% ад агульнага колькасць зон адпачынку) і Мінскай (48%) абласцей.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*



**Кліменцій Кожан,**
краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні.
*м. Германавічы.*

# Андрэю Георгіевічу Майсяёнку – 70

### 1

**Споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння Андрэя Георгіевіча Майсяёнка, членакарэспандэнта НАН Беларусі, акадэміка Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі, прафесара, доктара біялагічных навук, віднага прадстаўніка гродзенскай школы біяхімікаў і вітамінолагаў, аднаго з вядучых вучоных у галіне нутрыцыялогіі нашай краіны.**

**Андрэй Георгіевіч Майсяёнак нарадзіўся 1 чэрвеня 1943 года ў горадзе Глыбокім.**

Яго прадзед Фёдар Ігнатавіч Майсяёнак перад Першай Сусветнай Вайной быў абраны старшынёй Глыбоцкай воласці. Дзед Нікіфар Фёдаравіч быў шмат гадоў настаяцелем Галубіцкай, а пазней Стэфанпальскай царквы. Бацька Георгій Нікіфаравіч у пачатку 1940-х гадоў працаваў хірургам у Плiскім і Глыбоцкім раёнах, а пасля Вялікай Айчыннаай вайны – у Шаркоўшчыне і Варапаеве. Маці Андрэя Георгіевіча Антаніна Фёдараўна Ротчанкава паходзіла з вёскі Астаноўка Шаркоўшчынскага раёна, працавала настаўніцай спачатку ў пачатковай школе, потым выкладала біялогію. Перад Вялікай Айчыннай вайной працавала загадчыцай навучальнай часткі ў Лужкаўскай школе, добра ведала мастака Язэпа Драздовіча, які ў той час выкладаў тут маляванне.

### 2

Паколькі бацька быў урач, а маці настаўніца біялогіі, гэта ў многім абумовіла далейшы жыццёвы шлях Андрэя Георгіевіча Майсяёнка. Пасля заканчэння ў 1959 годзе Варапаеўскай сярэдняй школы, ён паступіў у Гродзенскі медыцынскі інстытут. Захапляўся спортам і музыкай, мастацкай самадзейнасцю. Быў чэмпіёнам горада, вобласці, рэспублікі па валейболе. Працаваў у навуковым таварыстве медінстытута, быў абраны яго старшынёй.

У 1965 годзе Андрэй Майсяёнак скончыў медыцынскі інстытут, потым аспірантуру пры ім. У 1971 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Працаваў кіраўніком лабараторыі клінічнай біяхіміі і асістэнтам кафедры шпітальнай тэрапіі Гродзенскага медінстытута.

### 3

У 1970 годзе пачаўся шлях Андрэя Георгіевіча Майсяёнка ў акадэмічную навуку. У гэты час у Гродна быў створаны Аддзел рэгуляцыі і абмену рэчываў Акадэміі навук БССР, які ў 1985 годзе быў пераўтвораны ў Інстытут біяхіміі. Першым вучоным сакратаром гэтага інстытута стаў Андрэй Георгіевіч Майсяёнак. Потым ён працаваў на пасадах старшага навуковага супрацоўніка і загадчыка лабараторыі. Калектыў вучоных інстытута біяхіміі плённа працаваў у галіне вітамінолагіі, рэгуляцыі абмену рэчываў, наркалогіі. Высілкамі А.Г.Майсяёнка ў Гродне атрымалі развіццё “гродзенскія сімпозіумы”, якія аб’ядналі намаганні вітамінолагаў і біяхімікаў краіны на рашэнне асноўных задач прафілактычнай медыцыны. Уклад А.Г.Майсяёнка ў рэалізацыю сістэмы вітаміннага маніторынгу, распрацоўку тэхналогій вытворчасці і прымяненне вітамінных субстанцый быў заслужана ацэнены кіраўніцтвам Акадэміі і навуковай грамадскасцю.



Андрэй Георгіевіч Майсяёнак

Пасля 1991 года,калі адбыліся лёсавызначальныя падзеі ў жыцці краіны і Акадэміі навук, абцяжараныя заўчаснай смерцю акадэміка Ю.М.Астроўскага, Андрэй Георгіевіч Майсяёнак прыйшоў на пасаду намесніка дырэктара Інстытута біяхіміі, у многім садзейнічаў стабілізацыі навуковага калектыву ў новых умовах, а з 1996 года ён узначаліў інстытут, умацоўваў навуковыя падраздзяленні, арыентуючы супрацоўнікаў на рашэнне практычна значымых праблем. У гэты перыяд атрымалі асаблівае развіццё міжнародныя сувязі Інстытута біяхіміі, у тым ліку пры непасрэдным удзеле і кіраўніцтве А. Г.Майсяёнка, а менавіта, з Інстытутам прафілактычнай медыцыны Фінляндыі, Інстытутам харчавання РАМН, Інстытутам нейрафізіялогіі і вышэйшай нервовай дзейнасці РАН, Беластоцкім медыцынскім універсітэтам (Польшча). Гэтыя сувязі прайшлі выпрабаванне часам і ў асноўным захаваліся да цяперашняга часу.

У 1997 годзе А.Г.Майсяёнак абараніў доктарскую дысертацыю ў Маскоўскім інстытуце біяхіміі імя А.Н.Баха.

З 1998 года прафесар А.Г.Майсяёнак – кіраўнік старэйшага навуковага падраздзялення Інстытута – лабараторыі кафермантаў (у далейшым Аддзела). Складанасці пераходу на праграмна-мэтавы метад планавання і фінансавання, скарачэнне аб’ёму фундаментальных даследаванняў былі ім паспяхова пераадолены шляхам спалучэння традыцыйных вітаміналагічных і прыкладных распрацовак.

У галіне нутрыцыялогіі, у супрацоўніцтве з фінскімі і расійскімі спецыялістамі, а таксама дзякуючы кааперацыі з калегамі Гродзенскага медуніверсітэта, былі абгрунтаваны біямаркеры рызыкі развіцця недастатковасці селена ў харчаванні жывёл і чалавека, намечаны рэальныя шляхі папярэджання і карэкцыі дэфіцыта гэтага мікраэлемента.

З 2000-га года А.Г.Майсяёнак, будучы выбраным членам-карэспандэнтам НАН Беларусі, а яшчэ раней членам Бюро аддзялення медыцынскіх навук, выступіў з ініцыятывай стварэння міжведамаснага Савета па збалансіраванаму харчаванню, падтрымліваў ідэю стварэння Інстытута харчавання ў структуры НАН. Нягледзячы на тое, што гэтыя прапановы былі адобраны пастановай Бюро Прэзідыума НАН Беларусі па выніках персанальнай справаздачы 27 чэрвеня 2008 года №350, яны не атрымалі развіцця і падтрымкі кіраўніцтва НПЦ “Інстытут фармакалогіі і біяхіміі НАН Беларусі”, у структуры якога калектыў аказаўся ў якасці філіяла.

Разам з тым, на працягу 2006-2011 гадоў Аддзел вітаміналогіі і нутрыцэўтыкі, якім кіруе А.Г.Майсяёнак, нягледзячы на абмежаваны аб’ём фінансавання, адсутнасць падтрымкі з боку дырэкцыі ўстановы, апіраючыся на тэндэнцыі развіцця даследаванняў замежных вучоных і ўстойлівае супрацоўніцтва з расійскімі нейрахімікамі, абгрунтаваў новае бачанне функцый пантатэнавай кіслаты.

З верасня 2011 года А.Г.Майсяёнак залічаны на пасаду галоўнага навуковага супрацоўніка Аддзела харчавання НПЦ НАН Беларусі па прадуктах харчавання, дзе яго настойлівыя прапановы па селенізацыі прадуктаў харчавання знаходзяць разуменне і падтрымку з боку кіраўніцтва ўстановы, Аддзялення аграрных навук. Пачата праца па манітарыраванні мікраэлементнага складу прадуктаў харчавання. А.Г.Майсяёнак – пастаянны дакладчык на канферэнцыях спецыялістаў перапрацоўчай прамысловасці, вострa выступае па пытанні распрацоўкі функцыянальных прадуктаў, узбагачаных мікраэлементамі і іншымі мікранутрыентамі, дэфіцыт якіх распаўсюджаны ў Беларусі. Асаблівая трывога і клопат – статус вітаміна Д, чаму ў краіне не ўдзяляецца патрэбнай увагі.

Яго ініцыятывы высока ацэнены спецыялістамі Саюзнай дзяржавы. На Міжнародным форуме “Пищевые ингредиенты XXI века” ў горадзе Маскве даклад А.Г.Майсяёнка па пытаннях бяспекі харчовых дабавак стаў навуковай падзеяй і атрымаў асаблівую ўдзячнасць кіраўніцтва форума.

Член-карэспандэнт НАН А.Г.Майсяёнак працягвае навуковую дзейнасць у роднай біяхімічнай установе “Інстытут біяхіміі біялагічна актыўных злучэнняў НАН Беларусі”, дзе кіруе трыма навуковымі праектамі. Гэта не толькі даніна традыцыі вітаміналагічных даследаванняў, але іх новае бачанне ў плане метабалічнай фармакарэгуляцыі. Вынікі даследаванняў і міжнароднага супрацоўніцтва будуць разгледжаны ў чэрвені 2013 года на сімпозіуме ў Гродна “Пантатэнавая кіслата і мозг”, удзел у якім пацвердзілі вядучыя па праблеме вучоныя ЗША, Расіі, Польшчы і Украіны. Трэба адзначыць паспяховае супрацоўніцтва А.Г.Майсяёнка і супрацоўнікаў РНПЦ “Кардыялогія”, вынікі якога былі нядаўна дакладзены на міжнароднай канферэнцыі Усходне-Еўрапейскага супрацоўніцтва ў Празе, а прадстаўлены А.Г.Майсяёнкам даклад стаў пераможцам конкурсу.

А.Г.Майсяёнак – актыўны ўдзельнік даследаванняў па гісторыі медыка-біялагічных навук Беларусі, з’яўляецца членам камісіі НАН па гісторыі навукі. Яго нядаўнія даследаванні прысвечаны ўзнікненню вышэйшай медыцынскай адукацыі на тэрыторыі Беларусі-Літвы, дзейнасці БелНДІ харчовай прамысловасці БССР у 30-я гады і ролі А.С.Вечара ў стварэнні айчыннай вітаміналогіі.

А.Г.Майсяёнак супрацоўнічае з калектывам Гродзенскай гімназіі імя акадэміка Е.Ф.Карскага па развіцці школьнага музея і навуковай працы вучняў. Ён чытае курс лекцый па фізіялогіі харчавання для студэнтаў факультэта біялогіі і экалогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

За 48 гадоў навуковай дзейнасці А.Г. Майсяёнка склалася яго ўласная навуковая школа ў галіне вітамінаў і кафермантаў. Супрацоўнікі і вучні юбіляра абаранілі 4 доктарскія і 22 кандыдацкія дысертацыі, апублікавалі звыш 400 навуковых прац.

Асобна і ў сааўтарстве надрукаваў больш за 350 навуковых прац, у тым ліку 7 манаграфій і метадычных распрацовак па праблемах біяхіміі, вітаміналогіі, гісторыі медыка-біялагічных навук і медыцыны.

Імя Андрэя Георгіевіча Майсяёнка і яго працы вядомыя далёка за межамі Беларусі. Ён актыўна падтрымлівае міжнароднае супрацоўніцтва з даследчыкамі і навуковымі калектывамі Масквы, Іркуцка, Чыты, Кіева, Рыгі, Варшавы, Берліна, Фрайбурга. Гэта такія славутыя навуковыя ўстановы, як Інстытут харчавання Расійскай Федэрацыі, Інстытут эксперыментальнай біялогіі Польскай акадэміі навук, Біяхімічны інстытут Фрайбургскага ўніверсітэта, Інстытут аховы здароўя Фінляндыі і іншыя.

Імя Андрэя Георгіевіча Майсяёнка занесена ў такія прэстыжныя сусветныя выданні, як “Кто есть кто в европейских исследованиях и развитии”, “Кто есть кто современники”. Ён абраны акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, членам-карэспандэнтам Міжнароднай акадэміі арганізацыйных і кіраўнічых навук.

Нягледзячы на выдатныя навуковыя дасягненні, А.Г.Майсяёнак не перастае вучыцца, спасцігаць новае ў сённяшнім імклівым свеце. Ён закончыў Вышэйшыя дзяржаўныя курсы па праблемах патэнтазнаўства і вынаходніцтва. Ён вынаходнік СССР, аўтар 21 аўтарскага пасведчання на вынаходніцтвы. Пры Гродзенскім універсітэце скончыў курсы інфарматыкі, дасканала вывучыў нямецкую мову, а затым стажыраваўся ў Біяхімічным інстытуце Фрайбургскага ўніверсітэта.

*Заканчэнне будзе.*



НАСТАЯЦЕЛЬ

№ 60

Дня 18 IX 1943 г.

**Мэтрычнае пасьведчаньне.**

Як відаць з мэтрычных кніг:

______, сын / дочка ______ (прозьвішча і імя) (імёна)

______ нарадзіўся / лася у ______ (бацькоў)

______ года. (мейсца нараджэньня) (дзень, месяц)

Акт № 60 1943 года.

Настаяцель

Пасведчанне аб нараджэнні Андрэя Георгіевіча Майсяёнка ад 1943 года. Як вынікае з дакумента – пад час нямецкай акупацыі справаводства ў глыбоцкай царкве вялося на беларускай мове.

